**УЛАДЗІМІР МІРОНЧЫК**

# ВЫБРАНАЕ

**(ПРОЗА. ВЕРШЫ)**

**2021**

# СІНІЯ ВЕЧАРЫ

Пачатак дзевяностых гадоў, апошніх гадоў дваццатага стагоддзя. Вясковае жыццё амаль не змянілася. Тая ж галеча, тая ж праца, тая ж дбайнасць аб хлебе штодзённым. Людзі, як і сотні гадоў таму, жылі з зямелькі.

Бабуля мая ішла на ферму, а мы з дзедам заставаліся дома. Тады часта не было электрычнасці. Вось топіцца печ, кіпіць гаршчэчык з бульбай. Дзед вучыў мяне грэць рукі каля агню, а сам закурваў самакрутку. Дымок тоненькім струменьчыкам цягнула ў топку, у коміне выла мяцеліца. А нам утульна. Бывала, ляснуць клямкай дзверы і ў заснежанай шапцы заходзіць дзядзька Пётра. Пра што ён гаварыў з дзедам я ўжо не памятаю. Часцей заходзіў родны дзедаў братка Чэсь. Маглі яны ўдваіх і чарачку выпіць, а бабуля на тое злавала. Курылі дзяды многа і самі разводзілі самасад. Пах гэтай табакі быў надзвычайна прыемным, цяпер такога не бывае.

Зімы былі снежныя і доўгія, а за вокнамі, здавалася, разлівалася сіняя вадкасць, быццам хтосьці з неба выліў на зямлю вялікую чарнільніцу.

Дзядуля мой хварэў. Ужо не мог браць мяне на рукі, часцей хацеў прылегчы, а потым і зусім не стаў уставаць. Братка-Чэсь прыносіў яму ў чарачцы цяпер толькі мёд, жадаў папраўкі. Калісьці я сказаў: “Дзед, а памятаеш, як ты ўмеў хадзіць, дык мы з табой сядзелі на лаўцы і чакалі коней з поля”.

Час ішоў, зляцела зіма, і халоднай вясной, у пяты дзень траўня дзядуля пакінуў нас, сваіх дзяцей.

Што ў свае пяць гадоў я мог разумець, але памятаю, што стала сіратліва і холадна ў хаце, балюча і пуста.

З цягам часу жыццё пайшло далей. Бабуля па-ранейшаму мела шмат клопату, я часта заставаўся ў яе. Але дзеда з намі ўжо не было. Я ўсё падыходзіў да яго ложка, заплюшчваў вочы і чакаў, што ён з’явіцца.

Сінія вечары зноў засцілалі вокны і няўсцешная туга разлівалася па зямлі.

## ВАРЭННЕ

Дзед Іван штодня працаваў у кузні. Работа надта цяжкая. Яшчэ й таму, што не маладыя ўжо гады. І жалеззе пайшло іншае і разагрэць яго і пабіць – душа вон.

Жонка Іванава, Сцепаніда, была жанчынай добрай, удалай гаспадыняй. Але жыла ў ёй надзвычайная ашчаднасць. Пэўна, вайна толькі скончылася, кавалка лішняга не было, ды ўсё ж.

Развядуць, бывала, старыя самавар, гарбату заварацьі нясе Сцепаніда ў сподачку варэнне. Але зусім мала, ніколі Іван ім не частаваўся. Калі быў цукар, то ўпрыкуску, а не было – то й не было. Так і жылі старыя.

Адгарэла гарачае лета, зляцела грыбная восень, ды ступіла на парог зіма. Белая бель пакрывала абшары, пацягнуўся з каміноў дым і толькі кузня замёрла, як нежывая. Ніхто не разводзіў там вогнішча, не раздуваў мяхі, не гнуў жалеза.

Стары каваль захварэў і злёг. Цяжка яму было дыхаць, усё круцілася вакол, млела сэрца. Нічога ён не мог есці, толькі раз-пораз піў ваду.

Сцепаніда старалася дагадзіць мужу, глядзела за ім добра. Вось скрыпнулі дзверы, заходзіць яна ў белым фартушку, а ў руках трымае сподачак з варэннем. Ласкава глядзіць на мужа і падае пачастунак.

Іван зірнуў у вільготныя жончыны вочы і ціха сказаў:

- Дзякуй, галубачка, цяпер я ўжо не хачу.

Зіма была доўгай, цяжкой, а ўвесну на кавалёвай магіле зацвілі белыя пялёсткі маладых суніц…

## АНТОСЬ

Антон Іосіфавіч зазначаў, што пра яго жыццё можна пісаць кнігу. Найчасцей успаміналіся яму перадваенныя і ваенныя гады. Казаў: “Ніколі не забудуся, як мама карміла нас крупнікам, а ў міскі са столі сыпаўся пясок, бо камуністы разбіралі хату.” Гэдак ішла калектывізацыя. Усё ў людзей забіралі, выганялі на вуліцу, здзекваліся над малымі і старымі.

З прыходам фашыстаў стала ясна дзіцяці, што жыць увогуле не прыйдзецца. Зноў тыя ж праявы – голад, страх, смерць...

Яго малога разам з маці забралі ў Нямеччыну на работы. Былі ў лагеры. Маці захварэла і не магла ўстаць, яе выкінулі ў бур’ян.

Маленькі Антоська бегаў па сметніках, шукаў хоць што прыдатнае да ежы і насіў маме. Так і выхадзіў. Пасля іх забралі працаваць у прыватнай гаспадарцы нейкіх заможнах немцаў. Зноў хацелася есці. Эканомка ўстаўляла ў бохан хлеба фасоліну, каб бачыць ці не скраў хлапчук кавалак хлеба. Ён жа аднак, адразаў лустачку, а фасоліну ўстаўляў на месца.

Калі ў дзевяностых гадах сталі адчыняць цэрквы і касцёлы, Іосіфавіч казаў, што ненавідзіць папоў і ксяндзоў.
На запытанне адказваў проста: "Я ў лагеры бачыў як расстрэльваюць, а ксяндзы перад гэтым махаюць кадзілам і бласлаўляюць на смерць ні ў чым не вінаватых людзей."

Пасля вызвалення Антоську з маці павінны былі вярнуць у Беларусь. Адзін з афіцэраў узяў яго і сказаў: "Ты будзеш маім сынам!" Бо роднае яго дзіця загінула недзе ў Расеі пад бамбёжкай. Вось ужо стаіць на аэрадроме самалёт, гудуць рухавікі і афіцэр вядзе хлапчука з сабой. Але малы укусіў яго за руку і ўцёк.

Вярнуліся яны з маці ў родную вёску і далей пайшло мірнае жыццё. Толькі ўспаміны скалечанага вайной дзяцінства ніколі не забываліся.

Сам ён не скардзіўся, успамінаў як прыгоды. Відаць, дзіцячыя гады самыя лепшыя, як бы яны не прайшлі.

## ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ

Перад вялікімі абразамі гарэлі тонкія свечкі. Крыху патрэсквалі, чакалі свята. Іх аксамітнае святло напаўняла прастору жывым і трапяткім дыханнем. Людзі сустракалі Нараджэнне Хрыста. Паветра поўнілася ўрачыстасцю, гучалі маладыя прыгожыя галасы. То была Херувімская. Пад высокім скляпеннем у глыбіні купала разлівалася нечуванай прыгажосці мелодыя. Празрыстая, ласкавая, жывая.

Святар зірнуў за вакно і ўбачыў кружлянне вялікіх пульхных сняжынак. Здавалася, гэта яны спяваюць, імкнуцца ў храм і зіхацяць у святле тонкіх агеньчыкаў перад залатымі рызамі абразоў.

Стомленым вачам бачылася родная хатка, чыстая, утульная. А ў хаце бабуля і дзядуля. Вось яны, тут, жывыя! Вочы свецяцца спагадай і радасцю, нячутная гаворка саграе сэрца, дорыць шчасце.

Быццам няма ў іх унука сівізны ў барадзе, быццам ён маленькі хлопчык, быццам шчасце можа быць бясконцым!

Так добра быць разам, прыгарнуцца, прылашчыцца, пабыць маленькім. Не чуецца часу, ідзе вечнасць, гучыць размова.

Але што гэта? Быццам пачуўшы настойлівы вечны загад, родныя паглядаюць вінавата, збіраюць торбачкі, закідваюць за плечы і выходзяць за парог. Унук кідаецца ўслед і бачыць, што з кожных дзвярэй роднай вёскі выходзяць старыя, збіраюцца, бы птушкі, у чароды, ідуць, ідуць з запаленымі агеньчыкамі ў самае неба. Зямныя шляхі замятае мяцеліца, белае покрыва кладзецца на цёплыя сляды…

Заключнае "Амінь!" вяртае прытомнасць. Буйныя слёзы кацяцца з вачэй, заліваюць твар і бараду, падаюць на святарскія рызы. Хрыстос Нарадзіўся…

(Протадыякану Андрэю Скробату)

## ПАЖАР

На балоце ушчаўся пажар. Гарэла тарфянішча. Тры навакольныя вёскі зацягнуў густы едкі дым, стыхія падыходзіла да сяліб і стромкага сухога бору.

Ляснічы сабраў нараду і сказаў:

- Тушыце рыдлёўкамі! Нас так вучылі!-

Леснікі ўздыхнулі, спорыць з дурнем было бессэнсоўна. Ён часта паўтараў, што мае дзве вышэйшыя адукацыі, а таго, што тарфянішча прагарае да таго свету і паглынае нават цяжкую тэхніку , не ведаў.

Выйшлі на двор. Маладыя мужыкі адразу кінуліся шукаць трактары і абавязкова з бочкамі. Тушэнне нейкім іншым чынам у такой крытычнай сітуацыі не магло быць эфектыўным. Да таго ж, ужо пачынала займацца дзялянка, трашчэлі пні.

І адкуль у дзевяноста першым годзе была тая гарэлка, але трактарысты Мішка і Валік былі добра "перакусіўшы". Не гледзячы на тое, першы з іх вёў "Кіравец" з васямнаццацітоннай бочкай, а другі - "Беларус" з трохтоннай.

Агонь збівлі ўсе рукі, якія маглі. У ход ішлі ўсе даступныя сродкі. І тут , нарэшце, падышла доўгачаканая дапамога.

Магутная жоўтая пачвара зараўла на ўсе дванаццаць цыліндраў, дала напор і, нібыта чэрвеньскі лівень, стала зліваць сцюдзёнай вадой вялікую плошчу пякельнага полымя. У той жа час, па ўскрайку дзялянкі, не разбіраючы дарогі, па пнях ішоў сіні трактар і добрым струменем адмяжоўваў паласу бяспекі. Рызыка была надзвычайная, не было ніякай гарантыі, што тарфянішча не падрыхтавала для машын падземную пастку…

Пад вечар тушэнне ішло да фіналу. Людзі былі чорныя, мурзатыя, змораныя. Якраз у гэты момант пад'ехаў партыец-ляснічы. Ён лыпаў пустымі вачамі, праціраў лысіну і баяўся, што ўсё не так і заўтра яго здымуць з пасады.

Угледзеўшы, што мурзатыя мужыкі здымаюць стрэс чаркай кміннай, ён кінуўся іх выхоўваць. На што пачуў адказ:

- Цімафеевіч, сербані і ты сотку, палягчэе!-

Ён, падпарадкоўваючыся невядомай сіле, пацягнуў і другую і трэцюю, аж пакуль не быў загружаны ў машыну без пачуццяў.

Раніцай дым развеяўся, вёскі стаялі цэлымі, у лесе спявалі птушкі.

## МАРЫЯ

Марыя Максімаўна верыла ў Бога, хадзіла ў царкву, шчыра малілася дома.

Хатка яе была зусім старэнькай, палову яе займала вялікая печ. У чырвоным куце было шмат абразоў, пад імі стаяў стол, гарэла лампадка. Мноства старадаўніх і навейшых кніг знаходзілі прытулак на стале. Ложак стаяў далей, ля вакна. Ён засцілаўся па-даўнейшаму, тканай капай. Падушкі былі пульхнымі, высока ўзбітымі, на іх накідалася вязаная павуцінка.

Чысціня і парадак сведчылі аб вялікай дбайнасці гаспадыні.

Вясковыя дзеці клікалі яе проста – набожная бабка Марыя. Ніхто не чуў ад яе дрэннага слова, ні з кім яна не сварылася, што б не адбывалася ў яе жыцці.

Неяк летам калгасныя каровы зруйнавалі яе агарод. Гаспадыня цяжка ўздыхнула і пайшла маліцца. Доўга чытала акафіст Маці Божай, а тады зноў пайшла ацэньваць урон. Пасля казала: " Гляджу, а нічога страшнага! Тое адсаджу, гэта падвяжу, неяк будзе!"

Іншы раз вясковы хлапчук (беднае дзіця, у якога бацькі не было, а маці піла гарэлку) скраў у Максімаўны пенсію. Крама была насупраць, прадаўшчыца адразу запытала адкуль столькі грошай, усё ўскрылася. Пацярпеўшая нічога не сказала, а вечарам запрасіла "злачынца" на вячэру, не спаганяўшы аніякіх грошай. Ведама, дзіця галоднае, малое.

Царкоўныя ключы віселі каля абразоў. Бацюшка прыязджаў і заставаўся начаваць. Максімаўна, меўшы добрых весемдзясят год, сама насіла дровы, ваду. Паліла ў печы, гатавала ежу. Малады бацюшка частаваўся, маліўся. Здаецца, што быў сам неблагі чалавек, выхаваны, але што такое смалякі і як закласці юшку ён не ведаў. Тым больш, як браць на руку дровы з вярсты. Ведама, сталічны!

Маліўся ён сумленна, а прапаведваў яшчэ лепш. Калі служэнне займала гадзіны дзве, то пропаведзь яшчэ гадзіну з хвастом. Пры тым, што ў царкве было пяць, або сем чалавек. Старэнькія бабулі, што надрываліся ў свой час за працадні, чулі ад бацюшкі, што яны "ісконно русскіе", асабліва павінны шанаваць "царя-мученіка" і не слухаць беларускае радыё. Не малая увага надавалася злу, якое прыходзіць ад вялікага багацця. Ведама ж, бабулі мелі яго спаўна – у агародзе расла цыбуля, кароўка давала малако, а на хлеб плацілі пенсію.

## ЗОРКА ВЕНЕРА

За вакном быў траскучы мароз. На небе ззяла вялікае яркае сонца. Снег іскрыўся незвычайнай беллю і асляпляў вочы. На падваконнях чырвонымі пялёсткамі квітнелі агеньчыкі. У класе было горача натоплена, праз вокны пралівалася сонечнае святло, таму кветкі адчувалі сябе надзвычайна ўтульна.

Клас беларускай мовы быў для вучняў самым любімым. У куточку была зладжана этнаграфічная экспазіцыя. Прыемна радавала вока разнастайнасць вышыванак, прылад працы і побыту. Калаўрот і пранік, кросны і ступа, прасніца і лямпа выклікалі надзвычайную цікаўнасць і радавалі вока. Здавалася, што вялікі чыгунны прас, у які насыпалася вугалле, падобны на карабель. Асобна трымаўся старадаўні патэфон. Якраз да яго і павінна была дайсці ў гэты дзень справа.

На настаўніцкім стале ляжала невялічкая кніжачка факсімільнага выдання. Пасярэдзіне бліскучай вокладкі размяшчаўся надпіс “МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. ВЯНОК”. Літары былі апавіты тонкім вяночкам беларускіх кветак.

Настаўніца разгарнула кнігу перад вучнямі. Растлумачыла, што гэта дакладная копія таго экзэмпляра, які трымаў у руках Максім Багдановіч. Потым, кожны вучань падыходзіў да дошкі і чытаў на памяць верш “Зорка Венера”.

Усе ведалі, што сёння акрамя дзіўнай кнігі будзе і яшчэ нешта надзвычайнае, таму з нецярплівасцю чакалі, калі заспявае стары патэфон.

Лёгкімі рухамі настаўніца накруціла скрыпучую ручку, паставіла пласцінку і пачуліся гукі. Спачатку ціхае шыпенне, а ўслед за ім густое гучанне мужчынскіх галасоў: “Зор-ка-а Ве-не-ра-а ўзыйшла над зям-лё-ю-у..” Потым загучаў малады, прыгажы голас саліста, да яго далучылася ўсё шматгалоссе магутнага беларускага хору…

Вучні слухалі, нібыта зачараваныя. Гэта была сустрэча з нечым вялікім, чыстым і светлым. Прыязней глянулі са сцен партрэты класікаў. Здалося, што Колас і Купала ўважна глядзяць на маладога Багдановіча, вядуць з ім нячутную гутарку…

## ЗНАХОДКА

Іван ішоў з гораду пехатою. Спякота звінела ў паветры, паабапал дарогі калыхалася збожжа, стракаталі конікі. Паўсюль было ціха, толькі лагодны ветрык шапацеў пасмамі бяроз.

Цішыня і спакой пасля праклятай вайны. Голадна, бедна, але спакойна. Вось жа хлеб спее, дасць Бог і ўраджай будзе.

Іван не заўважыў, як ступіў на мяккую мураву, шлях адкрываў далягляды родных краявідаў. Нечакана наступіў на штось цвёрдае, босую нагу працяў востры боль.

- А, халера цябе! –

І ў момант абурэнне змянілася радасцю. Нагу амаль не параніў, толькі крыху ўкалоў, а пад нагой быў сапраўдны скарб – стальны танкавы трос. Гэта знаходка была падарункам для селяніна, перажыўшага вайну.

Моцнымі рухамі мужчына выдраў з зямлі знаходку, перахаваў у бур'яне і запомніў месца. Трэба ісці дамоў, знайсці каня з возам і прывезці ў двор.

Надвячоркам справа была зладжана. На гумне, ля крайняй хаты, пачалася цяжкая таемная праца. Іван разматваў трос на жылы, а з іх рабіў цвікі. Цяпер ён ведаў, што перакрые траской хату і будзе мець у гаспадарцы яшчэ шмат цвікоў, якія абавязкова спатрэбяцца.

## ШКОЛА

Школа была родным домам, цэнтрам вясковага жыцця. У верасні туды імкнулася вялікая грамада дзяцей. Нават з суседніх вёсак ішлі за ведамі. На школьным двары раслі векавыя вербы, маладзейшыя клёны, бярозкі, шырока разлягаўся сад.

Хто не памятае багатых восеньскіх букетаў, паху свежай фарбы ў класах, любімых беларускіх падручнікаў?

Акрамя ўрокаў тут праходзілі святы. Вучнямі мы ведалі што такое Дзяды, каляды, масленіца. Асабліва ўрачыста адзначаўся Дзень Перамогі. Прыходзілі ветэраны, для іх чыталіся вершы, спяваліся песні.

Усё навучанне было беларускім, скрозь чулася родная гаворка. Дзеці ведалі чароўныя словы "добры дзень", "калі ласка", "дзякуй".

З прыходам "новага часу" школу зачынілі. Высокапастаўленыя мадамы з начосамі даводзілі, што "наполняемость падает і печное отопленіе не годітся". Быццам цяпер іншыя патрабаванні часу.

Так і стаіць драўляная школка. Неўзабаве яе будынкі перадалі бацюшку. Той навёз туды нейкіх ложкаў, сталоў, усялякага хламу, а клас беларускай мовы абсталяваў пад малельню. Назваў гэта прыходам у гонар расейскага святога Сергія Раданежскага...

Больш як семдзясят гадоў у сценах школы гучала родная мова, сам Гілевіч чытаў там свае вершы. Цяпер жа чуецца толькі словы "московского ізвода церковнославянского языка".

Бывае прайду па родных сцежках, па школьным двары і горка робіцца ад таго, што вымірае вёска, нічога не застаецца свайго, роднага.

## МІКАЛАЙКА

Вясковыя бяседы заўсёды поўніліся дабрынёй і шчырасцю. Даўней не ведалі брыдкіх слоў, жылі дружна, разам плакалі, разам смяяліся. Ці хрэсьбіны, ці вяселле – усё адзначалі дружна, гуртом.

Зразумела, вясковая праца была цяжкой, але і здаровай. Натуральна, што і адпачынак пасля яе і святкаванне мелі сваю адметнасць.

Вось ужо ў хаце свята, накрыты сталы, вабяць пачастункі і чуецца: "Заходзьце, госцейкі дарагія!" Дарагія тады былі ўсе. Ніхто не сварыўся, нікога не крыўдзілі. І песня гучала шырока і вольна каціласа сляза з добрых вачэй.

Мікалай ужо займаў з жонкай месца побач з суседзямі. Быў ён чалавек просты, працавіты. Усё жыццё – праца. Ферма, коні, хатняя гаспадарка. Выраслі ўжо дзеці, сталі на свае крылы, а таму можна хоць крышачку адпачыць, схадзіць на бяседу.

Усе вяскоўцы ведалі, што Мікалай абавязкова забудзецца ў пярэдняй сваю шапку, каб назаўтра вярнуцца ў хату і справіцца як здароўе гаспадароў. Тыя ж, у сваю чаргу, пачастуюць госця, паправяць яго здароўе і настрой. Таму, калі нехта губляў незнарок шапку, чуў у свой адрас : " Эх, ты! Мікалайка!"

Жыццё яго добра завярнула на дзявяты дзясятак. Па-ранейшаму ён гаспадарыў на двары, па-ранейшаму з добром вітаў людзей на вуліцы. Адным летнім ранкам вырашыў абкасіць двор. Накляпаў коску, дастаў ладны брусочак і па-ціху, па-старэчы махаў. Валіліся пад узмахамі кветачкі дзяцелінкі, кланяўся падарожнік, падала крапіва і маладая травіца. Скончыўшы працу, гаспадар як мае быць абцёр травой інструмент, паставіў да плоту, а сам прысеў.

Лавачка, збітая яго рукамі, заўсёды давала прытулак. Прыняла і на гэты раз. Быццам заснуў на ёй Мікалайка, ды больш не прачнуўся.

Ішлі да яго і старэйшыя і жменька маладых, не шкадавалі кветак. Абрадзілі, паклалі ў дамавіну, а каля галавы, на шаўковай падушачцы, красавалася лёгкая ільняная шапачка.

## ШУРА

Калі хто і быў на гэтай зямлі святым, дык гэта была наша цётка Шура. А можа, у яе асобе, і ўсе беларускія жанчыны.

Жыла яна ў глухой вёсцы, гадавала сыноў, працавала. Здавалася, што ўся беларуская прырода слухалася яе рук. Ці ранняе сонца, ці позні месяц, усё яна не прысядзе. Вось трэба грады садзіць, вось ужо палоць, тут жа сена сушыць, яблыкі парадкаваць, складаць капусту. А дома памый, апрані, есці згатуй, бяжы ў хлеў.

Муж яе, дзядзька Коля, быў цяжкога нораву чалавек. Дрэннага мо і не рабіў, але характар меў нялёгкі. Які ж ён мог быць, калі чалавек прайшоў партызанскія выпрабаванні, а тады на фронт у самую Нямеччыну. Бывала, што і выпіць мог і пасварыцца, але нікому цётка Шура не скардзілася, несла крыж. Усё для дзяцей.

Ніколі яна нідзе не была. Не бачыла вялікіх гарадоў, не насіла дарагіх сукенак. Увесь убор яе быў звычайны наш, вясковы. Спадніца, кашуля або каптан, хустачка. Валасы яна прыбірала прыгожа, ці ў касу, ці ў цыбуліну. Даўней не хадзілі жанчыны з непакрытай галавой, бо ўсё праца. І сонца бязлітаснае і вецер, а то і дождж.

Усё цётка Шура любіла. Сядзіць бывае на двары, цыбулю пляце. І так прыгожа, і так лёгка атрымліваецца, што вачэй не адвесці. Ці сена ў капу скласці, ці бульбу перабраць, усё ў яе руках спорылася.

Любіла яна і весну і лета, і восень з зімой. У Бога ўсяго многа! Не чула яна разумных і вялікіх людзей, не чытала таўстых кніжак, а ўсё ў гэтым жыцці спазнала, усё бачыла.

Ніколі яшчэ на зямлі не было двух аднолькавых дней і начэй. Ці восень раскідае лістоту, ці вясна рассцілае абрусы пралесак і шуміць у лесе ручайком.

Бачыла ўсё цётка Шура і ўсяму радавалася.

## СЛУЖЭННЕ

Ніколі бацюшка не зайшоў да людзей у хату, не спытаў як жывуць, ці ў шчасці, ці гаруюць. Дваццаць гадоў прыязджаў у царкву махаць кадзілам, а народ співаўся, скатваўся ў прорву.

У хаты п’яніц ішлі настаўнікі, бегла фельчар, ці проста неабыякавыя вяскоўцы. Хто паесці нёс, хто ўшчуваў, хто прасіў “закадзіравацца”.

Насупраць царквы жыла ўдава з дзьвума сынамі. Жанчына была інвалідам-калясачнікам, дзеці яшчэ хадзілі ў школу. Шмат гадоў гора панавала ў хаце і зноў жа дапамагалі вяскоўцы, настаўнікі.

Святар ніколі не заходзіў хоць бы з добрым словам. Бо зацікаўленасці ніякай не меў. Што можна ўзяць з удавы і дзьвух хлопчыкаў-сірот? Доўга хварэла Валянціна, а як дзеці падраслі, то і памерла.

Куды цікавей святару былі зносіны са старшынём калгасу. Як толькі той пераступаў парог царквы, дык служыцель культу ляцеў з алтара цалавацца. Быў ён частым госцем за багатым сталом чыноўніка.

Не менш любым сябрам быў для папа кіраўнік сельвыканкама. Усё нешта прывязе, падкіне. Жарты пахабныя сыпаў прама тут жа, каля амвону.

Час ішоў, неўпрыкмет, па волі Божай, нараджаліся і паміралі людзі. Але царкоўны служка не меў да іх аніякай увагі.

## АБРАЗОК

З вечара сніліся жахі. Нехта звыродлівы стагнаў і выў. Адкуль шасцігадоваму дзіцяці такія сны?

Мама з братам паехалі на першым аўтобусе. Ужо з паўгода яна разумела, што старэйшы сын хворы. Вадзіла да дактароў, тыя казалі: “Не придумывайте!” І зноў халоднай восеньскай раніцай у пакутны шлях.

Малы прачнуўся, дома нікога не было. Апрануўся і пайшоў у школу. Чорныя старадаўнія вербы на школьным двары надавалі тугі і суму. У сшытку пісаў роўна, чыста, але радасці ніякай не было. Вярнуўшыся з заняткаў, убачыў, што дома зноў нікога няма. Бацька на працы. А мама? А дзе брат?

У хлеве рыкала карова, прасіла піць. Хлапчук падыйшоў да студні, зь цяжкасцю наліў паўвядра сцюдзёнай вады, панёс у хлеў. Зорка піла нетаропкімі глыткамі, уздыхала. Так, за некалькі разоў, напілася. Трэба ісці за сенам. Але браць не тое, што ў пуні, а з азяродаў. На іх густа віселі цёмныя лахманы апошняй атавы, гэта была густая канюшына. Яе кветкі засохлі і страцілі свой колер. Нарваўшы малымі рукамі сена, гаспадар панёс яго кароўцы. Тая ўдзячна прынялася хрумстаць.

У хаце было холадна. Час затапляць печы. Памаленьку з дрывотні насіліся дровы, складаліся ў топку. У адкрытыя камяны цягнула дым, выла дзесьці ўгары…

За працай не думалася, а вось цяпер стала трывожна. Адзе яны? Можа нешта здарылася? Чаму яны мяне кінулі? Дагарэлі печы, закладзены юшкі, гаспадар выходзіць на вуліцу.

Хоць ветрана і сыра, але можна было выглянуць, ці не едзе хтосьці па дарозе. Дарога пустая. Ніхто не ехаў і не ішоў. На двары гойдаліся зялёныя галінкі "елачак" , якія ўплятали звычайна ў вераснёўскія букеты. Дзе-нідзе на іх траплялiся чырвоныя ягадкі. Вецер незадаволена шархацеў у яблыневым лісці.

Тым часам мама з братам ехалі ўжо з местачковай бальніцы ў раённую. Дзіця бясконца хацела піць. З яго ўжо колькі месяцаў бралі аналізы і сцвярджалі, што здаровы. Маці ж перажывала, цішком плакала і бачыла нейкую хваробу. У райбальніцы таксама нічога не знайшлі, выпісалі "направление" на Бараўляны.

У Бараўлянах дзіця звалілася з ног і, толькі тады, вопытная дакторка закрычала: "Рэанімацыю! Кома!"

- Фашысты! – зароў з далёкага калідора іншы доктар – гэта ж цукровы дыябет! Як яны не бачылі? –

Цукар у дзіцяці ўжо набліжаўся да адзнакі 40… На хуткай адвезлі ў Менск. Вуліца Падлесная, асветленая соннымі жоўтымі ліхтарамі ўжо чакала. Урач сказаў, што наўрадці што будзе. Калі і выжыве, то не на радасць. Густое балючае чаканне не давала дыхаць. Па вуліцах праносіліся машыны, вокны залiваў дождж, горад не спаў.

У вёску ж тым часам прыйшоў вечар. Малы сядзеў забіўшыся ў кут і плакаў. Незаўважна для сябе заснуў. Бацька прыехаў позна, сказаў: "Нашы не прыедуць".

Тры дні галасіла маці трымаючы ў руках абразок Багародзіцы. На чацвёрты дзень, з-пад кропельніцы ціха азвўся кволы дзіцячы голас. Пачынаўся іншы, доўгі шлях выпрабаванняў і вяртання да новага, невядомага жыцця.

У райбальніцы імгненна зніклі вынікі аналізаў і былі згублены медыцынскія карткі. Праўдзівым заставаўся толькі абразок Багародзіцы ў маміных руках…

## **БулочЬкі**

Лагойск. Кулінарыя. У чарзе стаяць два мужыкі. Абодва з лясгасу. Адзін майстар, другі ляснік.
Чуецца гутарка:

- Дзялянку выразалі, лесавоз загналі, план зрабілі! Туды сюды, глядзіш – капейчына!
- Дык а што яны, б..дзь, думалі, сядзець будуць? Няхай робяць!
Тут мужыкі падыходзяць да касы і адзін вымаўляе:
- А почЁм у вас эці булочЬкі?..

Аб'язджаю па сцяне. Здаецца, што праз касу праходзіць мяжа з суседняй дзяржавай.
- Очінь фкусные, с начіначЬкой! – дабівае прадаўшчыца Алка, якая толькі што часала шыкоўнай трасянкай з-за дзвярэй падсобкі…

## ГАРМОНІК

У печы дагарала. Над чырвонымі вугальчыкамі калыхалася нізкае сіняе полымя. У хаце было ціха і ўтульна, вялікі гадзіннік глухавата адтрэскваў са сцяны кожную секунду.

За вакном стаяў канец лістапада, браўся зазімак. Дзе-нідзе ў садзе на галінках трапляўся то чырвоны, то жоўты ліст. З неба, як з дробнага сіта, сыпаліся кропелькі. Ці дождж гэта быў, ці туман – не разабраць.

Бабуля засланіла комін, паспытала дух і засталася задаволеная. З печы не толькі не пачулася чаду, але і вельмі прыемна патыхнула тушанай бульбай, асаблівы водар якой надаваў лаўровы ліст.

Шасцігадовы ўнук сядзеў на зэдліку і чакаў. Нарэшце бабуля сказала: "Ну, апранаемся, ды пойдзем да Чэся!"

Унуку да Чэся вельмі хацелася, бо там быў найвялікшы цуд, рэч, якая магла замяніць усё на свеце, спявала рознымі галасамі, жыла сваім жыццём, словам – гармонік.

Вось ужо выйшлі са двара, зашчапілі калітку. Дарога па вуліцы была вельмі прыемнай. Не гледзячы на хмары і дробныя кроплі імжакі, дыхаць было лёгка. Здавалася, што густое свежае паветра можна піць.

На чырвонай каліне заводзілі сваю супярэчлівую песню сінічкі. Здавалася, што ім  утульна і весела. Яны не спынялі сваёй гаманы, частаваліся буйнымі чырвонымі ягадамі.

Неўзабаве шлях быў пройдзены, бразнула клямка і адчыніліся вялікія дзверы. Бабуля павіталася, і адразу ж на яе твары ўзнікла нечаканая ўсмешка. У Чэсявай хаце адбывалася імправізаваная бяседа. За сталом, акрамя гаспадара, былі Пётра, Антось і Ніна. Па ўсім відаць, што арганізатарам свята выступала суседка, якая даўно

мела свае мэты ў дачыненні да Чэся, што пятнаццаць гадоў таму аўдавеў.

З-за стала пачулася: "О, Адольфаўна! Заходзь, пасядзім!" Госця, усміхаючыся, згадзілася з прапановай і прысела за стол, пасадзіўшы побач унучыка. Ён, у сваю чаргу, адразу ж на шафе ўбачыў гармонік і ўсе яго думкі былі заняты іншым. Вось бы граць, як той Завалокін, думалася яму. Бываюць жа людзі ў якіх атрымліваецца, здаецца сам той гармонік спявае ў руках. А мяхі якія бываюць прыгожыя! І белыя і чырвоныя і з малюнкамі. Як жа пяюць тыя гармонікі, якія ж яны…

Тым часам перад гасцямі былі пастаўлены талеркі і на стол падаваліся стравы, хоць іх тут і так было дастаткова. Сквірчэлі румяныя скварачкі з яйкамі, красавалася каўбаса, халоднае і вантрабянка. Бульба выглядала з-пад коўдры густой пары і смела развальвалася ад асабістага смаку. Сыр і тварог, салёныя агуркі і памідоры, жытні хлеб, цукровыя хрушчы ў смятане… Асобнае месца на стале Чэся-пчаляра займаў мёд. Ён быў наліты ў крышталъную вазачку і пераліваўся ў розных яе ўзорах. Вядома, было на стале і тое, ад чаго ўсе дарослыя моршчыліся, але ўсё ж пілі з маленькіх кілішачкаў, запіваючы яблычна-парэчкавым кампотам.

Размова была нейкай надзвычай вясёлай. Хутка праляцеў час і дарога да бабулінай хаты. Паколькі Адольфаўна пахваліла хрусткую капусту, то з сабой ёй наклалі вялікую міску гэтага простага беларускага пачастунку.

І ўсё ж, самае галоўнае – гармонік быў дома. Маленькі, чырвоны, з белымі гузікамі…

## ГРАМНІЦЫ

Грамніцы. Снегу было яшчэ многа, але ў гэту раніцу яго пачаў есці туман. Густая вільгаць разлягалася па ўзмежках лесу, чапляючыся за бахматыя вяршаліны хвой.

Маладая жанчына вырашыла пайсці ў царкву. Шлях быў ня блізкі, кіламетраў пяць з гакам. Узяўшы за руку меншага сына, яна рушыла ў шлях з надзеяй на Бога. Старэйшы хлопчык цяжка хварэў і спадзяванні былі толькі на нябёсную дапамогу.

Дарога была цяжкой, але такой чыстай і светлай, што хада па збітай кашы адлігі не стамляла. Стройны бор гудзеў густую песню пад смыкам маладога ветру, які разносіў па абшары свежы лясны водар.

Царкву яшчэ толькі ўзяліся аднаўляць. Але намоленым драўляным сценам было не меньш трохсот гадоў.

Трымаючы маму за руку, маленькі хлопчык заходзіў у вялікую старую хату. З кардонных абразоў на яго пазіралі строгія вочы, ля сцяны стаяў вялікі драўляны крыж.

Маці, не ведаючы як сябе паводзіць, стала ў чарзе за старэйшымі кабетамі. І тут была здзіўлена канчаткова. Усе нешта куплялі. І малітву і, здаецца, саму Божую ласку. Адна свечка каштавала як бохан хлеба, на крыжыках, абразах, кніжках быў напісаны кошт.

Парафіянкі аддавалі грошы за новыя незразумелыя словы "літургія", праскамідыя", "малебен"…

Жанчына купіла адну свечку і не ведала дзе яе паставіць. Убачыўшы вобраз Маці з Дзіцем на руках, адчула да яго прыязнасць і нетаропка падыйшла. Углядзеўшыся ў светлы лік, цяжка ўздыхнула і запаліла свечку.

У царкве было холадна і няўтульна. Малады святар чытаў доўгія незразумелыя малітвы, пасля кожнай паўтараючы "ешче молімся". Было незразумела што і для каго тут адбываецца, толькі Жанчына з Дзіцям ахінала пяшчотным ласкавым поглядам.

Напрыканцы набажэнства старая служка падыходзіла да кожнага са скарбонкай і людзі клалі туды грошы. На тую, што не мела чаго пакласці, сталі скоса пазіраць…

Выйшаўшы з царквы з сынам за руку,  жанчына цвёрда рашыла маліцца Богу. Але не ў царкве. Кожную раніцу, кожны вечар, ідучы ў дарозе, на ўсялякім месцы ва ўсялякі час. Сваімі словамі, сваімі пачуццямі.

Жыла Валянціна вельмі бедна. І кожная капейчына настаўніцкай зарплаты магла дапамагчы хвораму дзіцяці. Патраціць жа мізэрныя сродкі на свечкі і запіскі – было злачынствам.

## ФЕАДАЛ

Загадчыца прадуктовай базы ў часы застою была значна вышэй, чым каралева бензакалонкі, дырэктар школы, ці нават галоўны ўрач.

Надзвычайна важнае становішча падкрэслівалася адпаведным ладам жыцця, гардэробам, звычкамі. Гэта быў той выпадак, калі месца не толькі ўпрыгожвала чалавека, але і адкрывала перад ім нечуваныя магчымасці.

Пятроўна ўжо дабравата ўвайшла ў смак і ведала па чым у гэтым жыцці фунт ліха.

Жыла яна ў прыватным сектары ва Ўруччы. Вось-вось павінна была зрабіць двухпакаёвую кватэру сабе і трохпакаёвую сыну з нявесткай і ўнукамі.

Першыя промні сонца асвятлялі горад, ушчыналася кволая раніца. На двары Пятроўны былі нацягнуты шнуркі з бялізнай, дзіцячае і дарослае сохла на свежым паветры. Пара была вясновая, толькі браліся сыходзіць марозы.

Прыкрыўшы клямку, загадчыца выплыла на двор. У мехавой шубе і норкавай шапцы яна, быццам старадаўняя князёўна, целіпалася пад шнуркамі з бялізнай. Было гэта нязграбна, цяжка, і не адпавядала высокаму статусу феадала.

Дабраўшыся да прыпынку, кабета стала ўглядацца на дарогу, адкуль павінен быў ісці першы ранішні аўтобус.

Спакваля яна заўважыла на сабе дзіўнаватыя позіркі людзей, якія стаялі побач. Прахаджане пераглядаліся. Пэўна ж, галота на шубу глядзіць – думалася прыгажуні! - Ну, глядзіце, ў вас такая не скора будзе!

Такія ж позіркі сустрэлі баярыню і ў аўтобусе. Гэтак жа, з усмешкай, пазіралі на яе і тыя, хто ішоў па вузкім тратуары. Нарэшце начальніца падыйшла да прахадной і гатова была накінуцца на вартаўніка, як той беспрычынна зарагатаў і выпаліў замест прывітання:

- Пятроўна, а што гэта ў вас на галаве?

- Дзе?

- Здыміце шапку, гляньце.

Бадзёры смех раззлаваў саноўніцу, яна схапіла з галавы кубанку і ахнула. На шапцы ляжалі маленькія дзіцячыя трусікі…

- Ах, … маць! Гэта ж я пад шнурком зачапіла і аж да базы прыпёрла!  Ой, б..дзь , пазорышча!..

## ЗДУРНЕЎ

На двары стаяў светлы жнівеньскі дзень. Сады поўніліся водарам спелых яблыкаў, за ваколіцай гулі камбайны.

Была субота, таму на вёску прыязджалі гэтак званыя дачнікі. Хоць на справе ніякімі дачнікамі яны не былі, а проста імкнуліся ў бацькоўскія хаты з гарадоў і пасёлкаў.

Паэўна, не малая радасць прайсціся роднымі сцежкамі, пераначаваць у бацькавай хаце, пагуляць з дзецьмі сярод багацця духмянай квецені.

Вяскоўцы ж былі рады сваім прыязджанам, частавалі іх, гутарылі, дзяліліся навінамі.

Гарадскія дзеці гулялі з вясковымі, выдумлялі забавы, высвятлялі хто дужэйшы, сварыліся, мірыліся, знаходзілі сяброў.

Адным з галоўных месцаў вёскі было скрыжаванне, ля якога стаяў стары калодзеж.

І слова гэта не тутэйшае, заўсёды ў нас казалі “студня”, і была яна амаль у кожным двары. А тут чамусьці важна – калодзеж. Лічылася, што ў ім асабліва чыстая і смачная вада. Да таго ж над дубовым зрубам узвышаўся журавель з узорамі.

Вось якраз да гэтага важнага калодзежа, павольным крокам, падыходзілі дзве бабулі. Былі яны хораша апрануты і мелі прыемнасць сустрэцца.

- Ой, Ганначка! Што я табе скажу! Маньчын зяць здурнеў!
- Як здурнеў, чаго?
- Ну мы ж з імі цераз плот. Выйшла я раніцай значыць, гляджу, а ён руку да галавы прыклаў, сам з сабой гаворыць, смяецца! І доўга зь ім гэдак было, а тады ў хату пайшоў.
- Ай жа, Бог Святы! А такі ж разумны хлапец быў! Інстытут жа закончыў, ды й выкладчыкам там. Пэўна ад вялікага розуму галоўка не вытрымала!
- Ты ж толькі нікому не кажы, каб ад мяне не пайшло!
- Не ўжо, Клаўдзячка, буду маўчаць. Каб яе, тую навуку!

Бабулі разышліся, а вечарам, невядома адкуль, уся вёска думала ад чаго Маньчын зяць здурнеў.

І толькі вясковыя дзеці спрачаліся між сабой, мабільнік у дзядзькі Андрэя, ці сотавік. Прыкладалі да вуха школьныя пеналы і казалі : “Ало! На сувязі!”

## КАРАБЛІК

Ранняя халодная вясна. Снег плаваў у сцюдзёнай вадзе. На узлесках крыху прасыхала, а з бяроз ужо браўся ісці сок. Дні былі доўгімі і халоднымі. Адзін дзень – як цэлае жыццё. Белы, пусты, бясконцы. Такія дні напаўняла толькі густое завыванне ветру ў прамерзлых пасмах бяроз.

Хлопчык выйшаў з хаты. У руках яго быў папяровы караблік. Наважыўся прайсці праз поле за дваром да ручаіны і там пагуляць. Вечная ангіна не давала дыхаць, але ніколькі не пужала (у дзяцінстве тваіх хвароб баяцца толькі бацькі). Ішоў у гумавых боціках па мокрым снезе, наблізіўся да ручайка і апусціў на ваду караблік. Той, ад моцнага ветру, пахіліўся і намок. Стала сумна, бо зноў нічога не ўдалося.

Пасля карабліка па вадзе плавалі палкі, шчэпкі, кідалася каменне. Праз доўгі час зрабілася зусім холадна і малы пайшоў да хаты. Дома нікога не было. Замерзшымі рукамі хлапчук адразу, чамусьці, узяўся за стары дзедаў гармонік. Прытуліў да сябе, пачуў дрыжачую жаласьлівую ноту і расплакаўся...

## КРЫЖ

Хата Міхася была на ўскрайку вёскі, чамусьці ўсе называлі гэта месца Латыжнікам. З аднаго боку быў гарод, за якім цякла рэчка, з другога – дарога, пры якой, за самым плотам, стаяў старадаўні крыж. Ён быў збіты з магутных смаляных бярвенняў і прастаяў ужо больш як сотню год. Сустракаў на пуцявіне людзей, блаславўляў ранак і вечар.

Міхась даўно ўжо працаваў на двары, травеньскае сонца залівала абшар і незлічоныя птушыныя галасы поўнілі наваколле. Біць дровы – такая сабе праца. Але як добра, калі ўзімку натоплена печ, тады не напалохае аніякі мароз. Моцнымі рукамі, спрактыкаванымі рухамі, мужчына разбіваў таўстыя калоды, адляталі дробныя шчэпкі.

Здалёку даносіліся дзіцячыя галасы. Вялікі гурт на чале з дырэктаркай школы рухаўся да Міхасёвага двара. Ён доўга ўглядаўся і не мог рашыць загадку. Нядзеля, дзеці павінны быць дома, хіба дапамагаць каму рушылі? Дык тут жа толькі мая хата, пажылых няма.

Большыя хлапчукі неслі з сабой пілу і сякеру. Міхась глядзеў і дзівіўся, няўжо яму дапамогуць дровы спарадкаваць?

У гэты час гурт наблізіўся бліжэй і пачуўся голас дырэктаркі: "Рэлігія, это очэнь плохо, ребяты! Этот крест ставілі несознацельные крестьяні, которые былі порабошчены релігіознымі предрассудкамі і нявежеством!"

- Ды не дурнейшымі яны былі за цябе! – прагучаў магутны малады барытон. У імгненне Міхась скеміў што тут мае адбыцца.

- Ці даўно ты тут на нашым хлебе, гэткая разумніца? Не слухайце яе, дзеці! Яна гэтага крыжа не ставіла, не ёй яго і пілаваць! Ідзіце дамоў і бацькоў слухайцеся!
- Ах, какой невежда! Хам! – не спынялася маладая дырэктарка.

Тут Міхась ўзмахнуў сякерай і камуністка самлела ад жаху, няўжо ўдарыць? Але ён гучна па вясковаму вылаяўся, быццам крыху і ў адрас Бога, якога тут жа і бараніў.

- Гэць, трыбога маць, каб я цябе тут не бачыў! –

Мокрая жаночая сукенка выдавала надзвычайнае хваляванне члена партыі.

Дзеці засмяяліся і разбегліся.

А старадаўні крыж так і застаўся на сваім векавым месцы.

## ЛЯВОНІХА

У старой вясковай царкве дагаралі свечкі. Служба адыходзіла і чуліся апошнія словы маладога святара:

- Царь мученик искупил ваши грехи! И вы должны покаяться за своих предков, которые совершили грех цареубийства!
- Бацюшка, дык якія продкі? Мой жа дзед тут жыў, у вёсцы, і мама з бацькам тут. Таго ж цара недзе далёка забівалі.
- Раиса, вы часть русского народа, а в убийстве помазанника Божия повинен весь народ!

- Які народ?  Мы ж не расіянцы, а беларусы! І цара мы ніякага не забівалі. Нашто ён нам быў?
- Всё! Я вам как настоятель говорю! Перестаньте пререкаться, становитесь на колени и целуйте образ страстотерпца!
- Які ты мне настаяцель? Я на ферме па дзве групы кароў даіла, пакуль ты ў маткі цыцку ссаў. Цалуй сам свайго цара, а мы сюды да Бога прыйшлі. Правільна, бабы?
- Правільна! Але ты ўжо не крыўдуй, святы айцец. Вазьмі во малачка ды яечак, а цара нам твайго ня трэба. Ідзіце, дзеўкі, Матку Боскую цалаваць! – завяршыла спрэчку старая Лявоніха.

## ПАКАЯННЕ

Маленькія жоўценькія гусяняткі паважна ішлі па мяккай зялёнай траўцы. Яны яшчэ толькі вучыліся хадзіць, але ўсё наваколле надзвычайна вабіла іх. Гучны чмяліны спеў і тоненькая песенька пчалы надавалі раніцы ўрачыстасці, на пялёсткі высокіх кветак падалі залацістыя промні ласкавага сонца.

Гаспадыня глянула ў вакно, парадавалася добраму дню, усміхнулася вясёлым крокам гусянятак і занялася каля печы. З хлебам заўсёды шмат працы. Але ж і не малая радасць дастаць з жару духмяны бохан.

Ганне ўспомнілася які хлеб пякла яе бабуля, як клаўся ён на кляновыя лісты, ці аер, як пахла ў хаце жытам і кменам.

Ну вось, справа скончана, на стале красуецца духмяны жытні каравай. Пэўна і бабуля з задавальненнем бы паспытала.

Накрыўшы хлеб вышытым абрусам, жанчына выйшла на ганак і абамлела ад убачанага. Пад варотамі ляжалі нежывыя маленькія гусяняткі.

- Божа! Хто гэта мог зрабіць? Мае ж вы маленькія, мае ж вы харошанькія!
- Гэта я зрабіла! Хай не ходзяць, дзе не трэба! – азвалася з-за плоту суседка.
- Што яны табе зрабілі?
- Нагадзілі на двары, заразы! Цяпер хай ляжаць!

- Ніна! Ты ж Богу молішся, у касцёл ходзіш! Ці ж не грэх забіваць жывое? Пэўна ж і ім Бог душачкі даў?
- Я малюся, дык свае грахі адмалю. А ты маліцца не ўмееш, дык і пойдзеш у пекла!

## МАНЮКА

У Бабруйску было ціха. На “Чырвоным харчавіку” разлівалі гарачую халву і духмяны зефір, на шынным рабілі колы, жылі, як жылося, хадзілі да суседзяў у госці.

Сашка сядзеў на канапе, дапіваў каву і думаў пра жыццё. Што ж яно хуткае такое, ды бесталковае? І на заводзе працаваў, і майстрам спорту быў, і з жонкай разышоўся і сын ужо вырас, і сёмы дзясятак не за гарамі.

Разважанні перапыніў званок у дзверы. Гаспадар падняўся, прайшоў па калідоры і запытаў:

- Хто?
- Газавая служба.
- Ладна, заходзь.
- Пакажыце газавыя прыборы.
- Якія тут прыборы, пліта ды і ўсё.
- А пліта ў вас старая, трэба новую купляць, інакш не дадзім газу. Вось зараз прадпісанне складу.
- За што ж яе купляць новую? У мяне пенсія малая!
- А чаму малая, вы што не працавалі?
- Адсядзеў дваццаць гадоў.
- За што?
- Забіў дваіх нах!

Газаўшчык, незаўважна для сябе, стаў рухацца спіной да дзвярэй. Запхнуў у партфель паперы і вымавіў:

- Другім разам! Дасьвідання!

Сашка зачыніў дзверы і падумаў: “Во прыдурак! І дзе я так маніць навучыўся? Ну і халера з ім, хоць пліту купляць не трэба!”

## ПРАЛЕСКІ

Маленькая дзіцячая рука трымала пралескі. Павяваў вецер і яны лёгенька гойдаліся, нахіляючы свае галоўкі. Вакол стаялі дарослыя, яны абступалі глыбокі дол і насып, на якім стаяла труна. Нябожчык быў чалавекам сталага веку, худзенькім, на твары яго быў адбітак цяжкага лёсу і вялікіх выпрабаванняў.

Чуўся голас старшыні сельвыканкама:

- Спі спакойна, Антонавіч! Радзіма не забудзе твайго подзвіга. Дзякуем табе за Перамогу, за мір на нашай зямлі, за жыццё дзяцей і ўнукаў! –

Падзеі былі надзвычай цяжкімі і жалобнымі. Пасля развітання народ стаў разыходзіцца. Вялікая колькасць кветак упрыгожвала свежы насып. Сярод іх была і жменька сініх пралесачак, пакладзеных дзеду.

Прайшло шмат гадоў, але, як толькі зацвітуць пралескі, унуку думаецца - дзедавы кветачкі…

## РУЛЬ

Жанчына ішла па вуліцы роднай вёскі. Ужо паспела прыбраць хату старэнькай матулі, прыгатаваць вячэру. Ідучы па ваду, углядалася ў знаёмыя вокны, са шкадаваннем уздыхала. Усё менш і менш заставалася вяскоўцаў.

Цераз дзьве хаты, на лаве, сядзеў сусед Шурка. Закурыў папяросу і думаў сваю думу.

- Здароў, Валька! Як тваё нічаво?
- Прывет, Шурык! Паціху, памалу.

Нечакана з-за паварота выехаў мотаблок. Такая сабе тэхніка. З рулём веласіпеда, коламі трактара, і рухавіком матацыкла. Кіраваў апаратам фанабэрысты дачнік Генка.

Ён глядзеў перад сабой так, быццам кіраваў паравозам, ці танкерам. Твар яго выказваў надзвычайную важнасць і

заклапочанасць. Гонар перапаўняў пачуццё настолькі, што з вяскоўцамі кіроўца не павітаўся.

Тэхніка з бразгатам пранеслася ў воблаку пылу. Шурка ўсміхнуўся, выдыхнуў папяросны дым і сказаў:

- Знаіш, Валянціна, такоя дзела – руль!

Звонкі смех падкрэсліў камічнасць сітуацыі.

## СЛАБОДЦЫ

Вокны былі адчынены, праз фіранкі павявала цёплым духмяным паветрам, якое падхоплівала руплівую працу чмялёў і пчол на кветках. Ужо вечарэла, сонца мядовымі промнямі абдымала сад.

Бабуля сядзела ў каляровай сукенцы і новай белай хустачцы, гаварыла з унукам, пакуль дачка прыбірала, дамывала посуд. Гаспадарлівыя гукі былі крыху чуваць з пярэдняй хаты.

- Бабуля, ты калісці распавядала пра Шульманаў, дык як тое гора сталася?
- Ой, дзетка, страшна ўспамінаць, але прыгадаю, можа ты людзям раскажаш. Жылі мы тады яшчэ ў Слабадзе. Шульманы былі нашымі суседзямі. Добрыя людзі. Мэндаль быў шаўцом і нават маму маю навучыў шыць, ды не толькі навучыў, але і аддаў швейную машыну, бо ў іх было дзве. Мама пасля вайны ўсіх абшывала, за тое мы і жылі. Жонку Мэндаля звалі Рахіль, а сынок іх зваўся Люська. Мы былі аднагодкамі, гулялі разам, усе ж дзеці вясковыя былі гуртом.

Як прыйшлі немцы, дык ніхто немцам не сказаў, што яны габрэі, нават у бацюшкі лагойскага нехта паперку дастаў, быццам яны хрышчоныя. Так і жылі. Здаецца гэта ўжо быў сорак трэці год. А тады сталі паліцаі хадзіць, дык яны былі горш за немцаў. Ужо па вёсках казалі, што забіраюць усё, здзекваюцца з людзей.

У адзін дзень нас, малых, бацькі паслалі трусам травы нарваць, быў з намі і Люсечка. Вось мы ўжо ўправіліся, бяжым з поля. Тады глядзь, ажно ідзе па вуліцы нейкі гурт людзей, некага вядуць, углядаемся - Мэндаля. Куды, хто, чаго? А гэта паліцаі па

яго прыйшлі. Малыя ўсе туды, глядзець што будзе. А яны, каля крайняй хаты, загадалі гаротніку на лаву сесці і нешта казалі, пыталіся. Бяжым мы туды, і раптам – стрэл… Падбеглі, а Мэндаль ужо сядзіць нежывы, праз ільняную кашулю кроў ліецца. Заплакаў малы Люсечка, кінуўся да бацькі, абняў за ногі і крычыць, тады адзін паліцай з усяе сілы прыкладам яго па галаве ўдарыў і забіў. Звалілася дзіцячае цельца нежывое, а мы ўцякаць хто куды. Паліцаі адразу ж і пакінулі вёску.

У гэты час ішлі жанчыны з поля. У кожнай была посцілка і серп, хадзілі жаць. З імі і Рахіль ішла. Як убачыла яна на лаве мужа нежывога, ды забітае дзіця каля яго ног, кінулася абдымаць іх, накрыла посцілкай, а тады паласнула сярпом сабе па шыі , ды побач лягла.

Як ужо галасілі слабодцы, як клялі тых паліцаяў, адзін Бог ведае. Пабралі нябожчыкаў ды траіх і пахавалі. Вечарам кароўка іх з поля прыйшла, рыкаць стала, а сустракаць ніхто не выходзіць, куры селі на ігрушы, сабачка есці прасіў. Пусты двор, няма людзей…

## СОН

Скрозь сон яму мроілася тое, чаго сам памятаць не мог, але ведаў ад старэйшых.

У часе другой блакады людзі хаваліся на балоце. Фашысты не маглі туды прайсці і сама прырода бараніла сваіх людзей. Бяда была толькі ў тым, што на гэты раз надзейна схавацца не паспелі, а кулі маглі дастаць.

Жанчыны з дзецьмі туліліся да дрэў, іх бязлітасна кусалі камары і авадні. Галоўнай умовай было маўчанне. І тут на жаночых руках заплакала немаўлятка. Небяспека была страшэннай, немцы маглі пачуць і забіць усіх.

Маці прыціскала да сябе дзіця і намагалася ўлагодзіць. Іншыя жанчыны маўчалі ў цяжкім напружанні. На тую бяду, разам з вяскоўцамі быў камісар-масковец, засланы для арганізацыі партызанскага руху. Ён падыйшоў да маці з дзіцем на руках і нечалавечым голасам прамовіў: “Задуши его, или это сделаю я!”

Жанчыну затрасло, па твары пакаціліся слёзы. Насустрач кінулася старая Аўдоцця, адштурхнула шаленца і паднесла да рота дзіцяці завернутыя ў хустачку раструшчаныя маліны. Малое стала смактаць і супакойвацца. У гэты ж момант камісар зачапіўся за куст і войкнуў. Велізарная старая гадзюка шахнула яго за нагу і знікла пад карчом.

Здалёку чуліся галасы нямецкіх катаў, яны абыходзілі месца, нічога не заўважыўшы.

Раніцай старэйшыя мужчыны прыйшлі за целам камісара, каб пахаваць яго.

Але трупа на месцы не было.

Пэўна, ваўкі.

Балота…

## СУСТРЭЧА

Вёска стаяла  на дзьвух высокіх узгорках. На адным з іх размяшчалася школа, пошта і крама, гудзеў мехдвор і асноўная частка паселішча. На другім баку – стаяла купка хат і высокая старадаўняя ліпа, якую было бачна з любога месца.

З крутога пагорка, якраз з боку ліпы, ішоў Васіль. Быў ён мужыком непуцёвым, перабіваўся з хлеба на квас, жыў за тое, што дапамагаў у вясковай працы дачнікам. Часам мог выпіць, павалачыцца. На пустым месцы выдумляў неверагодныя гісторыі, гроем якіх найчасцей і з'яўляўся. Ужо ніхто і не памятае, як да яго прыстала прозвішча Электрычка. Сам ён не крыўдзіўся, казаў : “Ван, ту, фры, абгемахт! Электрычка ідзёць!”

Мужчынская постаць рухалася спрытнай хадою худога чалавека. Насустрач, з высокай гары, ад школы, ішла жанчына. Ужо здалёку яна пазнала свайго пяцідзесяцісямігадовага аднакласніка і дзівілася з торбачкі ў яго руках.

- Прывет, Марына!
- Здароў Васіль! А куды гэта ты ідзеш?
- Да Светкі ў адведкі! -

Тут неабходна зазначыць, што Светка нарадзіла ўжо пятае дзіця і нідзе не працавала. Адно з тых дзяцей было Васілёва, аб тым казалі вяскоўцы.

- А што ты нясеш?

- А во, пасматры! – сказаў Васіль і расхінуў торбу. Там ляжала біклага з бярозавым сокам і букет пралесак, які быў не толькі надзвычайна прыгожа складзены, але і апавіты касой з тых самых кветак.

Электрычка пазяхнуў, дастаў з кішэні цыгарэту і, з пачуццём асабістай годнасці, мовіў:

- Но я цібе гавару, ты ж не падумай, я так, па дружбе. Мы ж нядаўна з Верай паміpыліся. Ана ка мне перайдзёт, ужо нават начавала адзін раз.

- Ой, Вася, нашто ўжо табе тыя бабы?
- Марына, ты меня недаацэньваеш!

## БУДЗЕ ПІЦЬ

Ужо перарабілі ўсю восеньскую работу, пажалі жыта, выбралі бульбу, перааралі палеткі. Гэта азначала, што трактарная брыгада мае такі-сякі адпачынак. Кожны праводзіў яго па-рознаму. І толькі Гарык быў верны свайму прынцыпу – пачынаў піць.

Добры месяц ён цягаўся па вёсках, па кумах-сватах, знаёмых ды сябрах. Ніхто за яго не хваляваўся, акрамя брыгадзіра.

Вось ідзе Сцяпан Іванавіч, ды сустракае Пецьку.

- Здароў, браток! Можа ты Гарыка бачыў?
- Бачыў, ага. З-пад Айнаравіч ішоў.
- А ці была на ім шапка?
- Здаецца, не было.
- От, б..дзь! Яшчэ будзе піць!..

## КУНАЦЕНЬКАЯ

Зіма была белай і казачнай. З неба сыпаліся пульхныя сняжынкі, шчодрыя кудлатыя хмары ахіналі прастор срэбным вэлюмам. Якраз перад святамі мароз адваліўся, вакол разлягаўся туман, дыхалася густа і лёгка. З каманоў угору цягнуліся струменьчыкі дыму, водар надыходзячага свята адчуваўся ў наваколлі.

Дзядуля адранку быў у добрым настроі. Ён задумаў вясёлую справу. Думалася, што ніхто, лепш за яго, не зможа выбраць елачку для ўнукаў. А таму, узяўшы сякерык, рушыў да лесу.Ісці было недалёка, лес пачынаўся за паўвярсты ад хаты.

Стары радаваўся пагоднаму дню, дабрабыту сына, маленькім унукам і свайму занятку.

Зайшоўшы ў лес стаў аглядаць прыгожыя зялёныя дрэўцы. Яны былі прысыпаны снегам, дзе-нідзе туліліся адно да аднаго, чым ускладнялі і без таго няпросты выбар. І вось на вока ўпала харошая елачка. Здавалася, была яна роўненькай і зграбнай. Старэчыя рукі страсянулі дрэўца ад снегу. Адзін, другі, трэці ўдар сякеры і вось ужо дзед нясе на плячы лясны цуд.

Дзяцей дома не было, сустрэла нявестка. Парадавалася падарунку, накарміла свёкра, а тады, правёўшы яго, стала ў сенцах і добра разгледзела падарунак. Дрэўца было зусім крывенькім, галінкі тоненькімі і нязграбнымі, а набольшай заганай сталася аднабокасць. Састарэў Антонавіч, абяссілеў, падумала нявестка...

Да прыходу дзяцей елка была заменена бацькам на новую, прыгожую і статную, але тых жа памераў, што была і дзедава.

Вечарам дарослыя і дзеці ўпрыгожвалі красуню. Якраз падчас ускладання вярхушкі, стукнулі дзверы і ў хату зайшоў дзядуля. Пацалаваў дзяцей, прыгледзеўся да ўпрыгожанага дрэўца і сказаў:

- Вось, дзеткі, але ж добрую елачку я прынёс, кунаценькую!
- Тата, ніхто лепш за вас гэтага не зрабіў бы! – усміхаючыся прамовіла нявестка.

Вечар быў добрым, надыходзілі святы, дзядуля ад сэрца радаваўся дзіцячым усмешкам і свайму трапнаму падарунку.

## СПОВЕДЗЬ

Непарушны саюз развалiўся. Касцёлы, абсталяваныя пад канторы, склады і спартовыя залы, пачалі вяртаць вернікам. На месцах шафаў з партбілетамі ставіўся табернакулум, замест сярпа і молата – крыж.

Народ хварэў ад радыяцыі, недаядаў ад інфляцыі, імкнуўся да канфірмацыі і апазіцыі.

Пачыналася новае жыццё, але для яго і самім належала аднавіцца. Не заўсёды тое ўдавалася.

Пятроўна, хвалюючыся пераступіла парог, перахрысцілася, гледзячы на іншых. Арганаў яшчэ не было, нягучна спявалі пеўчыя.

Згледзеўшы ланцужок людзей, які нагадваў чаргу за купонамі, яна нясмела стала ў канцы і пачала ўспамінаць грахі.

Галоўную частку разважанняў заняло хваляванне. Сказаць, не сказаць? А як будзе? А ці ўсё гаварыць? А мо няёмка, мо сорамна? Дык Бог жа і так ведае, калі Ён ёсць…

Незаўважна для сябе, Пятроўна падыйшла да вакенца з дробненькімі выразанымі крыжыкамі і адказала на пытанне:

- Ну, можа надта не грашыла, але ўсё жыццё працавала ў мужчынскім калектыве, дык магла і слова рэзкае сказаць.

У адказ пачула словы адпушчэння. І толькі паспела адчуць, што палягчэла ёй без грахоў, як зачапілася за палавік і выпаліла:

- Б..дзь!..

## ПРАВЕДНІКІ

У царкве стаялі самыя набожныя. Ва ўсялякім разе, яны самі пра сябе так думалі. Галоўнае – прынесці грошай, пакласці на столік яек, віна, мукі, або печыва. Не блага даць папу скварчыну і мех бульбы. Тады Бог пачуе, а астатняе – не ў лік.

А што стаяла за астатнім? У кожнага – сваё. Святасць пазнаецца справамі, яны самі гавораць перад Богам.

Ніна была прадаўшчыцай. Вагі ў краме былі добра падкручаныя, а калі тавар фасаваўся, то адна ці дзве лічбы выпадкова пераскоквалі ў бок гандляркі. Лічбы ўвогуле - вельмі непаслухмяная рэч.

Рая гнала самагонку. І не звычайную, а такую, якая выпраўляла на той свет людзей толькі на вялікія святы, як заслужаных праведнікаў. Лёнік з Людай памерлі на дзяды, Іван павесіўся на каляды, Віцьку знайшлі мёртвым на лаве ў велікодны ранак… Рая слухала малітву і нізка кланялася перад абразамі.

Генадзь і Леанід таксама славіліся добрымі справамі. Меўшы значныя пасады, не прапускалі магчымасці падпісаць дакумент такім чынам, каб не пакрыўдзіць і сябе. Асаблівую прагу ў іх выклікалі вандроўкі да маладых дзяўчат схільных да лёгкага заробку. У гэтай справе не перашкаджалі жонкі і дзеці. Чыноўнікі шмат чаго купілі цалкам, часткова і Бога (ва ўсялякім разе папа).

Тома ўсяго толькі разбаўляла вадой малако, а Таня падпісвала неабходны працэнт тлустасці. Трэба меркаваць, што гэта ніяк не перашкаджала малітве і асабістай святасьці.

Царкоўныя сцены самотна слухалі пісклявыя завыванні попіка і шкадавалі, што не могуць выйсці на вуліцу.

## САМ БАЮСЯ!

Трактар меў надзвычайна страшэнны выгляд. З-пад шырока расстаўленых колаў выходзілі рамы, якія высока над кабінай трымалі жалезныя зубы велізарных памераў. Гэтымі зубамі-віламі складаліся на зжатых палёх скірды саломы. Вяскоўцы звалі прыстасаванне “хапун”, або “кашчэй”.

З надрыўным бразгатам трох цыліндраў, страшэнная машына сунулася па дарозе. Траекторыя яе руху не магла не выклікаць хвалявання. То направа, то налева, то ў сярэдзіну бярэ. Надзея была на тое, што мехдвор зусім непадалёку, дык павінен неяк даехаць.

- Глянь! Дрот ізноў набраўся, як жаба гразі! – сказала суседка суседцы. Відаць справа была звычнай і нічым не магла здзівіць.

Ніхто ўжо і не памятае, калі мужчына атрымаў мянушку Дрот. Так яго звалі за жорсткія непаслухмяныя валасы. Ён рэгулярна трапляў у нейкі вясковы каламэс, або фацэт, любіў галімэсіць, квасіць і, падпіўшы, страляць цыбукеркі. (Як жа не закурыць, сербануўшы?)

Трактар з вялікай напругай уздзёрся на гару, падняў слуп пылу, дзіка зароў і спыніўся на мехдвары. Тут жа, па ўсіх законах жанра, здарылася самае нечаканае. З-за вугла канторы выйшаў старшыня. Ён адразу згледзеў гора-механізатара і рушыў да баявой машыны. Дзверы адчыніліся, цела вывалілася з кабіны.

- Ах, такую тваю маць! Паглядзі на сябе! Які ты з трактара вылазіш?
- Станіслававіч! Паглядзі на гэты трактар! Я ж на яго цвярозы баюся залазіць!

Дыялог быў скончаны, рогат механізатараў засведчыў, што каментары не патрэбны.

## СВЯТЫ БОЖА

Магутныя ўдары грому скаланалі наваколле. Неба ад краю да краю праразалі бліскучыя маланкі. Здавалася, так павінна пачынацца Другое прышэсце. Стыхія сляпіла і глушыла, паказвала сваю вялікую неўтаймаваную сілу.

Вёсачка тулілася на ўскрайку лесу. Каля крайняе хаты стаяла велізарная квітнеючая ігруша. Ад бляску маланак яна ўспыхвала белым вэлюмам і праразала сваёй урачыстай постаццю чорную непраглядную ноч.

У хаце тулілася да дзеда маленькая дзяўчынка. Пасля кожнага ўдару з неба яна ўсхліпвала:

- Дзеда! Дзедачка!
- Не бойся, дзіцятка! Не плач! – супакойваў добры дзядуля. Ён

стаяў перад абразамі у доўгай ільняной кашулі, барада яго была белай, як снег. За гэту велічную фігуру трымалася маленькая дзіцячая фігурка ў такой жа белай ільняной кашульцы.

- Святы Божа, Святы Крэпкі, Святы Бяссмертны, памілуй нас! – гучалі словы малітвы. Дзіця пакрысе супакойвалася, углядалася ў святыя лікі і засынала…

Сон быў моцным. Раніца абудзіла радасным птушыным спевам і салодкім водарам белай квецені з векавой ігрушы.

## Калінавы мост

З’явіцца мост калінавы
Ціхай ранняй зарою,
Цягнецца водар палынавы
Горкім сваім туманом,
Золак ідзе асінавы,
Шые чароўную мрою,
З душамі, роднымі, мілымі,
Стрэнемся за сялом.

Ой жа, на мосце калінавым
Прашчураў нашых абдымем,
Ды на абрусе вышытым
Жытні хлеб, соль паднясём,
Сыйдуць гады хвілінаю,
Лёсы жыцця былінаю,
Песню чырвонай рабінаю
Родную запяём.

А на стале мядовая
Чарка хмяльная новая,
А за сялом дубовая
Пушча галлём шуміць,
Ветры пяюць раздольныя,
Ззяюць крыніцы вольныя,
Прашчуры хлебасольныя
Просяць яшчэ пабыць.

## ЗАПЕЎКА

А ў маім бары
Сонца да зары
Свяціла,
Пала на зямлю,
Ў полі на раллю
Свяціла.

Ды на ўвесь прастор
Да сястрычак зор
Запела,
Каб вясна прыйшла,
Працу пачала,
Запела.

Каб вясна прыйшла,
Толькі не адна,
А з летам,
Каб паўсюль была
Ў полі збажына
Сагрэта.

## ПЕСНЯРУ

Яшчэ год, як пайшоў ты ад нас,
Найславуты з апошніх паэтаў.
Прыгадаем жыцця твайго час,
Горкай праўдай і верай сагрэты.

О, вялікі народны пясняр!
Сваё сэрца аддаў ты Радзіме,
Мовы матчынай меў дзіўны дар,
Тваё слова ў вяках не загіне!

Слова мілае Роднай Зямлі,
Слова песні над ціхай калыскай,
Слова ветру ў вясновым бары,
Слова гутаркі ветлай і блізкай.

Зведаў шмат ты ў нялёгкім жыцці,
Ды ніколі не хлусіў нікому.
Нам з дарогі тваёй не сысці,
Раз рашылі вяртацца дадому.

Беларускі народ не маўчыць
І штодзённа змагае трызненне,
Верш Гілевіча грозна гучыць,
Абуджае душу пакалення!

Паглядзі ж на Радзіму з вышынь,
Блаславі нас рукою паэта.
Светлы позірк у сэрцах пакінь,
Славай Роднага Краю апеты!

## ДУМА

Да дзядулі з бабуляй пайду,
Можа там у іх будзе гасцінна,
Можа там я дзяцінства знайду,
Можа час не збягае няспынна?

Прыгарнуся дзіцячай душой,
Пацалую у шчочку ласкава,
Павядуць мяне ў сад за сабой,
Дзе шчымлівая восень ступала.

А мо ўвесну сустрэнемся мы,
Светлым ранкам на вуліцы роднай,
Пабягу я хутчэй напрасткі,
Усміхнуцца мне вочы лагодна.

На тым свеце жывуць мо, жывуць?
Адыходзяць хваробы і гора?
Хоць бы голас мне родны пачуць,
Колькі год, а было як учора…

Ўсе туды мы пацiху ідзём,
Як жыццёвай дарогай ступаем.
Хіба там мо спагаду знайдзём,
Хіба там шлях зямны прыгадаем?

***

Хоць, напэўна, свет вялікі,
Я не бачыў гарадоў,
І плямён памерлых лікі
Ахінаюць сны вякоў.

Час ідзе ад краю свету,
Вадаспадаў і раўнін,
Дорыць беднаму манету,
Багачу зямлі аршын.

Хай усё перавярнецца,
Сыйдзе ў прорву небыцця,
Чалавекам той завецца,
Хто не зрокся пачуцця.

# ПАМІНАННЕ

Быццам тыя саборы гатычныя,
І палотны вялікіх карцін?
Бачу елкі і сосны прывычныя
І блукаю сярод іх адзін.

Век адзін пад бахматымі хмарамі,
Пад вятрамі у зорнай цішы,
Гавару з таго свету ахвярамі,
Заклікаю да цёплай душы.

Памінаю кадзілам і псальмамі,
Аб гаротнасці іх гавару,
Хор бярозавы моліць актавамі,
“Са святымі” хавае зару.

Плач зязюлі да свята Апостала,
Салаўіны спакуслівы зман
Абуджае у сэрцы завострaны
Усявышняга ве́кавы план.

## МОВА ХАТЫНІ

Беларускую мову палілі,
У Хатыні гарэла яна.
Дымам, полымем слова душылі,
Спадзяваліся, спаляць датла.

Вырывалася з пекла: “Ратуйце!”,
Бо інакш не умелі крычаць.
- Зберажыце жыццё, ушануйце!
Сцеражыцеся нас забываць!

Наша просьба да ўсіх у жалобе:
Усталюйце спакой на зямлі,
Каб ніколі ні ў якім народзе
Не палілі дзяцей у агні!

Каб ніколі ў віхуры пажарау
Не гарэла людское жыццё!
Не аддайце Радзіму ў ахвяру,
Бо навек паглыне забыццё!

- Мама, мама! – дзіцятка крычала
І слязінкі каціліс з павек… -
Хіба гэтага вам яшчэ мала?
Ўстрапяніся душой, чалавек!

Беларускую мову палілі,
Дык пачуйце ж Хатыні званы!
Каб гаворку сваю не забылі,
Беларусамі зваліся вы!

## МАЛІТВА

Зноў душа гаротная заходзіцца,
Зноў малітву небу я дашлю,
Захіні, Святая Багародзіца,
Тых, каго спрадвечна я люблю!

І таго , каго яшчэ не ведаю,
І каго хвароба гне к зямлі
Хай Твая малітва пераследуе
І ратуе ў роспачныя дні!

***

Слухаю вецер вясновы,
Ён сваю песьню пяе,
Чуюцца родныя словы
Ціхай мелодыі мне.

То паляціць за гуменне,
То па палёх наўздагон,
Хмаркай хавае праменне,
Ў вербах заблытвае сон.

## ПАРТРЭТЫ

У рамцы побач Колас і Купала,
Там час застыў – трыццатыя гады.
Маёй душы заўсёды не хапала
Іх позіркаў не ў часе злой бяды.

Вакно раскрыта, вецер павявае,
Пад вечар напявае песьню птах,
З другой аправы на аргане грае
Найбольшы з мудрацоў – вялікі Бах.

Яшчэ партрэт Антоніа Вівальдзі,
Дзе скрыпачка ля сэрца ажыве,
Згадайце ж, дарагія, тых згадайце,
Хто праўду нам спрадвечную нясе.

Ці словам спелым мудрым, ці гучаннем
Жывых і трапяткіх шчымлівых нот,
Партрэтным сваім велічным маўчаннем,
Такім, што не маўчыць праз сотні год…

***

Жураўлінага крыку чакаю,
Хоць няма канца-краю трывогі,
Непагодныя дні абдымаю,
Не сыходзяцца нашы дарогі.

У вышынях тваё захапленне,
Клін узнёслы варожыць світанне,
Я спыняю зямное маленне,
Бо ніколі не будзе спаткання.

***

Не ідзіце ў музыканты –
Надта голадна,
У акцёры, рэжысёры –
Чэрствы хлеб!
Хоць вялікія таланты –
Будзе сорамна,
Што збіраў, як жабрак,
Звон манет.

Пракарміцца мастаку –
Справа марная,
І танцору ў балеце –
Дарма!
Толькі праца штодзённа
Ударная,
А ў кішэні нічога
Няма.

Нас не звалі людзьмі,
Чалавекамі,
І да кроплі пілі
Нашу кроў.
Мы для свету лічыліся
Калекамі,
Хоць дарылі надзею,
Любоў.

Развітайцеся з песняй,
Высокаю,
І з тэатрам і з кнігай
Святой!
Сыйдуць творцы дарогай
Далёкаю,
Зноў нічога не ўзяўшы
З сабой!

А тады вам успомніць
Прынадзіцца,
Што пры Пушкіне жыў
Нейкі цар,
Што пры Моцарце ў Вене
Прыладзіўся,
Імператар забыты,
З гусар.

Мікеланджэла рымскіх
Пантыфікаў
Пагубляў на руках
Пералік,
І Да-Вінчы з гісторыі
Выклікаў
Да сягоння вядзе свой
Адлік.

Што на "Новай зямлі" мы ўсе
Выраслі
І ў нябыт адышоў
КэПэСэС,
"Купалінку" нам з душаў
Не выбілі,
Хоць агнём яе нішчыў
эСэС.

Зноў чытаем "Вянок"
Багдановіча,
Чуем Бахаўскі вечны
Арган,
Плач жалобны ад струн
Растраповіча,
І цымбал родны звон,
І баян!

Толькі гэта заўжды
Будзе вечнае!
Толькі гэтаму жыць
Праз вякі,
А хто зрокся душы
Чалавечае,
Той сляпы і нямы
І глухі!

***

Па дарозе жыццёвых напасцяў
Раскідалі растрачаны час,
Паламаўшы хрыбет свайму шчасцю,
Зноў баімся, што скажуць пра нас.

***

І ніколі на месцы каханых
Не паставіць імёнаў чужых,
Перагледжаных, ды не спатканых,
Зацалованых, ды не сваіх.

***

Ночы цёмны, халодныя дні,
Дум гаркавых плыве шматгалоссе,
Затрымай, абдымі, прыгарні…
Распытай, што не так адбылося.

***

І беднасць не парок і не прakляцце,
І не кляніце долю згарача,
І даражэй усіх зямных багаццяў –
Магчымасць прытуліцца да пляча.

***

Не вяртаецца сілай каханне,
І без крылаў куды паляцець?
Адпусці, як анёл на світанні,
Абдымі, каб душою сагрэць.

***

Ты вярніся, пакліч без аглядкі!
Дзе згубілася шчасце тваё?..

***

Ад раніцы у дзень самотны плыць,
Праводзіць ноч і сустракаць світанне,
І мне цябе ніколі не забыць,
Сапраўднае, вялікае каханне…

***

І да захаду сонца чырвонага
На зямлі спадзяваны спакой,
Ой, ты, доля мая засмучоная!
Чый я быў, калі й сёння не свой?

***

І ты мяне забудзеш назаўсёды
І я сыйду ў нябыт, як цёмны гмах,
Ды толькі мае скрыпкі ў дзень пагоды
Завыюць на кастрычніцкіх вятрах.

***

Апошні раз хварэю на зямлі,
У чэрвеньскай расе гараць півоні,
Глыбокі сон блакіт хавае ў тоні,
І дзесьці з-пад зямлі гудуць званы…

***

Ты пайдзі, пайдзі, не вярніся!
Развяжы пуцявіны дарог,
На апошнім шляху азірніся
І павер, што так вызначыў Бог.

***

І прымрояцца жахі начныя,
Чорны лес, капыты, цяжкі храп,
Не ўратуюць іконы святыя,
Ні асіна, ні дуб, ні альха…

***

Змарнаваўшы гады і хвіліны,
Пачынаем імгненні лавіць,
Нам пачатку не знаць, палавіны,
Перад смерцю збіраемся жыць.

***

Апошнім ударам у скронях маіх
Раскаціцца гул навальніцы,
Я больш не пачую далёкіх, сваіх,
І здасца, што соладка спіцца.

***

Ідзі, мая фатальная душа,
Пакліч жыццё на развітанне смела,
Ні крыжа, ні кахання, ні граша,
Дык заспявай, як некалі умела!

***

І ведаў, апошняя восень,
І сэрца згарала ў кастрах,
І дней маіх пяць, а не восем,
І крыж дзераўляны ў нагах…

***

Я судзіць згарача душ людскіх не прывык,
Праз вякі асудзілі даволі,
Бо царкоўная святасць вядзе у тупік,
А грахі навучаюць любові...

***

Лістам кляновым ляцеў,
Іскрай на жоўтым  кастры,
Я ў лістападзе згарэў,
Не дацягнуў да вясны…

***

Апошняе тысячагоддзе,
Зламала, згубіла  душу,
Нібы веснавое разводдзе,
Што  нотамі  я  апішу…

***

Мой кастрычнік дажджы залівалі,
Зь ім надзеі жыцця і вясны,
Туманы краявіды хавалі,
Ахіналі вятры і кастры.

***

Сакавік на вятрах пралятае,
Прыпынілася сэрца, чакае.

***

І галоўныя самыя рэчы
Разглядаем пры першай сустрэчы.

***

Для таго, каму сэрца балела,
Хто святло сярод цемры шукаў,
Мая ціхая песня звінела
І баян пералівамі граў.

***

Не разгледзеўшы, быццам на смех,
Я адкінуў жыццёвую радасць,
Аказалась, найбольшы мой грэх –
Непатрэбная Госпаду святасць.

***

І калі завяршаюцца дні,
Думы горкія ў дым адыходзяць,
Толькі так ноты песню знаходзяць.
За руку мяне ціха вазьмі…

***Караткевічу***

Не маем прарока ў Айчыне сваёй,
Так хутка яны дагараюць,
Пасмертна прымаючы смутак і боль,
Спрадвечнаму нас навучаюць.

***

Не сумуйце, мае дарагія,
За зімою прыходзіць вясна,
Разлівае крыніцы жывыя,
Абуджае пралескі ад сна!

***

Даражэнькія! Не забывайце
Мовы матчынай родны напеў!
Сваіх дзетак таму навучайце,
Каб ніколі наш край не змарнеў!